Ў нумары: Манаграфія Беласточчыны | Ці яйка мудрэйшае? | Яны былі першымі

# ПЛЕНУМ ГП БГКТ 26 КРАСАВІКА

**КАБ ХУТЧЭЙ УКЛЮЧЫЦЦА Ў МЕРАПРЫЕМСТВЫ ЗВЯЗАНЫЯ З 20-ГОДДЗЕМ НАРОДНАЙ ДЗЯРЖАВЫ, ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ ВЫРАШЫЎ ПРАВЕСЦІ ПЛЕНУМ, ПРЫСВЕЧАНЫ ГЭТАЙ ТЭМЕ, НЕ 10 МАЯ, ЯК БЫЛО ПАСТАНОЎЛЕНА РАНЕЙ, А 26 КРАСАВІКА.**


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (426) | ГОД IX | 26 КРАСАВІКА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


ПЯТРУСЬ БРОЎКА

## СЛЯДЫ

Усё пакінуць след павінна,
Бо, як пачаўся белы свет,
Прамень,
пясчынка
і расліна
Нязменна пакідаюць след.

І птушка песняю сваёю,
І кропля, што імкне да рэк...
А колькі,
колькі за табою
Слядоў на свеце, чалавек!

Ва ўсім, што створана дагэтуль
Твой творчы розум і рука —
След трактарыста,
след паэта,
Канструктара, будаўніка.

Але часы сатруць у гневе,
Бо сэрцы не кране ані
І напіс
ножыкам на дрэве
І фарбаю на камяні.

Вы выйшлі ўдалеч, маладыя,
Вам доўга крочыць праз гады.
Не забывайцеся ж,
якія
Вы пакідаеце сляды.




Мал. Т. Бейнаровіч

# ПЕРШАМАЙСКАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ

На ўскраіне Белавежскай пушчы раскінулася Гайнаўка — адзін з цэнтраў дзяржаўнай драўніннай прамысловасці. У міжваенны перыяд рабочыя мясцовых лесапілак, дрэваапрацоўчых заводаў, лясныя рабочыя вялі масавую і актыўную класавую барацьбу. Асабліва масава праходзілі першамайскія ўрачыстасці.

Надышла маёвая раніца 1932 года. Ужо па традыцыі аркестр рабочых будзіў жыхароў Гайнаўкі гукамі «Інтэрнацыянала», «На барыкады, люд рабочы» і «Варшавянкі». Ён абвяшчаў аб надыходзе 1 Мая — Свята працоўных. «Работнік» — орган Галоўнага Выканаўчага Камітэта Польскай Сацыялістычнай партыі ў 1932 годзе даносіў: «У Гайнаўцы а 4-ай гадзіне раніцы на вуліцах аркестр адыграў пад'ём і некалькі рэвалюцыйных песень і маршаў. Афіцыйныя ўлады і кіраўніцтва прадпрыемстваў выдалі загад аб забароне арганізавання розных маёвых мерапрыемстваў і ўдзелу ў іх рабочых. Аднак гэта не стрымала ініцыятывы гайнаўскіх рабочых. Яны масава рыхтаваліся да першамайскіх урачыстасцей.

Ужо каля 8 гадзін рабочыя збіраліся на сваіх заводах, праводзілі мітынгі. «Работнік» падае, што такі мітынг адбыўся «на хімічнай фабрыцы, дзе выступалі Станіслаў Дзюбуа і Янка Бэльтэр, потым рушыла дэманстрацыя. Рабочыя хімічнай фабрыкі спаткаліся на рынку з дэманстрантамі з дрэваапрацоўчых заводаў».

Рынак быў месцам мітынгаў і сходаў рабочай Гайнаўкі. Калектывы хімічнай фабрыкі фірмы «Гродзіск», фабрыкі тэрпентыны, упраўлення лясных вузкакалеек, лесапілак, лясныя рабочыя і сяляне сустракаліся і віталіся, схіляючы сцягі. Потым раздаваліся воклічы «Хай жыве 1 Мая», «Хай жыве адзінства рабочых». На плошчы рабілася шумна і цесна. Сярод рабочых былі шматлікія групы лясных рабочых з Чарлёнкі і Будаў, а таксама сялян з навакольных вёсак.

*

У той час у гайнаўскай паліцыі зазваніў тэлефон. Камендант зняў трубку.

— Так, слухаю.

З тэлефоннай трубкі плыў глухі, нервовы голас камісара паліцыі з Бельска - Падляшскага:

— Загадваю разганяць усялякія першамайскія мітынгі.

— Пане камісар, нас мала тут, каб мы маглі штосьці зрабіць, — апраўдваўся камендант.

— Так, ведаю аб гэтым. Пусціце сабак, ужыйце гумовыя палкі. Зразумелі?

— Слухаюся, пане камісар, — паслухмяна адказаў камендант.

— Збор, — кладучы тэлефонную трубку, аб'явіў камендант.

*

Над галовамі пяцітысячнага натоўпу, сабраўшагася на плошчы, узарваўся спеў «Інтэрнацыянала»:

«Паўстань, пракляты, катаваны...»

Вецер гойдаў сцягі і транспаранты. На трыбуну ўзышоў Станіслаў Дзюбуа, пасол на сейм, прадстаўнік пралетарыяту белавежскай акругі:

— Таварышы! Гайнаўскі рабочы клас разам з усім пралетарыятам Польшчы святкуе 1 Мая.

У гэты момант нечакана на рынак уварвалася паліцыя. Рабочыя цесным кальцом абступілі трыбуну, закрываючы праход да яе. Заклік паліцыянтаў, каб разышліся, застаўся без водгуку. Рабочыя не рухаліся з месц. Паліцыя таксама не мела замеру ўступіць. Некалькі разоў паўтарылі гэты заклік, потым пачалі біць дэманстрантаў палкамі.

Аднак паліцыя мела слабыя сілы, каб разагнаць мітынг. Рабочыя без асаблівых цяжкасцей апанавалі стварыўшаеся становішча, а паліцыянтаў прагналі разам з іх сабакамі. Мітынг працягваўся. Далей выступаў С. Дзюбуа. Пасля выступіў Янка Патэр, сакратар Акружнога праўлення прафсаюзаў рабочых драўніннай прамысловасці ў Гайнаўцы. Пад канец мітынгу былі ўручаны прафсаюзныя сцягі аддзелу ў Чарлёнцы і Будах. Як падаваў «Работнік», пасля мітынга пачалася некалькігадзінная першамайская дэманстрацыя. «На чале мнагалюднай дэманстрацыі ехала 50 веласіпедыстаў, потым ішло некалькі соцен дзяцей з чырвонымі і бела-чырвонымі сцяжкамі, аркестр. За імі ішлі сцяганосцы, рабочыя фабрык і заводаў, сяляне.» Плячо ў плячо ішлі рабочыя, выкрыкваючы: «Хлеба, працы. Працы, хлеба». Калі пераставалі першыя, пачыналі скандаваць іншыя: «Хай жыве адзінства пралетарыяту», «Далоў дыктатура», «Далоў антырабочыя законы».

Сярод дэманстрантаў ішлі члены Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі, Саюза Камуністычнай Моладзі Заходняй Беларусі, Таварыства Рабочых Універсітэтаў, Прафсаюзаў і ППС. У той дзень на вуліцы выйшла ўся Гайнаўка.

Дзень 1 Мая быў праглядам баявых сіл Гайнаўкі, якая адказвала барацьбой на пашырэнне беспрацоўя, абмежаванні, атакі капіталу на заваяванні і правы рабочых, на рэпрэсіі і праследванні.

Над Гайнаўкай разгаралася вячэрняя зара. Мінаў яшчэ адзін з шматлікіх дзён барацьбы пралетарыяту Чырвонай Гайнаўкі.

Б. НІКІЦЮК

40 ГОД НАЗАД

## ДРУКАРНЯ ЦК КПЗБ У БЕЛАСТОКУ

На пачатку 1924 года беластоцкі кравец з «Ханаек» Вольф Пейсаховіч супольна з гродзенскай дзяўчынай Ентай Куснежыцкай адкрыў уласную майстэрню.

Майстэрня мясцілася на ціхай і звычайна пустой вуліцы, у невялікім доме. Уваход быў з панадворка, але вокны выходзілі на вуліцу. У тым іменна памяшканні, як толькі пераехаў туды Пейсаховіч, пачала дзейнічаць новая нелегальная друкарня КПЗБ.

Памяшканне было падзелена так, што ў першым пакоі звычайна сядзеў Пейсаховіч і шыў. У гэтым жа пакоі стаяла калыска дзіцяці і гаспадарыла жонка Пейсаховіча. Калі прыходзіў чужы чалавек, у гэтым жа пакоі з'яўлялася адразу Куснежыцкая, удаючы, што таксама шые. Другі пакой «наймаў» я. Суседзі ведалі, што я гімназіст, рыхтуюся да ўступных экзаменаў ва універсітэт і таму рэдка выходжу з дому — нібы сяджу цэлыя дні і зубру. Якраз у гэтым пакоі размяшчалася наша друкарня.

Грошы на арганізацыю «майстэрні» тав. Пейсаховіч атрымаў, вядома, ад партыі. Не быў яе членам, быў толькі прыхільнікам. Яго кандыдатуру падала яго родная сястра Ева Шварц (цяпер жыве ў Варшаве), якая належала тады да беластоцкага актыву КСМ. Е. Куснежыцкая была актыўным членам гродзенскай арганізацыі КСМ, з запалам аддавалася партыйнай рабоце. Мела за сабой ужо салідны стаж канспірацыйнай работы і выдат-

(Працяг на стар. 4)




**«ПОМСТА»** — урывак аповесці М. Шулецкай аб Райску.

*

**ШЛЯХАМІ ЛЕГЕНД І ЛЕТАПІСАЎ** (Нарва ў сівой старыне).

*

**«ТАВАРЫШ С.»** (У «Пісьмах на волю» Веры Харужай нас зацікавіў таямнічы «таварыш С.», якому адрасавана большасць лістаў Веры з беластоцкай турмы. Хто гэта таварыш С.? Мы пачалі пошукі. Закончыліся яны поўнай удачай — мы знайшлі таварыша С. Але аб гэтым за тыдзень.

*

**САКОЛЬШЧЫНА Ў ДВАЦЦАЦІГОДДЗІ.**

 

# АСНОЎНАЯ МЭТА — АДЗІНСТВА

Гісторыя змаганняў і перамог рабочага класа дае пераканаўчыя доказы, што ён дабіваецца найбольшых поспехаў дзякуючы сіле і адзінству дзеяння марксісцка - ленінскіх партый і ўсяго сусветнага камуністычнага руху. Адзінства ідэйных поглядаў і штодзённай рэвалюцыйнай практыкі было і з'яўляецца асновай умацоўвання сацыялістычнай сістэмы, а таксама распаўсюджвання рэвалюцыйных ідэй у свеце. Пытанне адзінства сусветнага камуністычнага руху набывае сёння асаблівае значэнне, калі правадыры такой вялікай партыі, як Камуністычная партыя Кітая, выступаюць з тэорыямі і прапановамі, якія пярэчаць інтарэсам значнай большасці партый.

Закранаем сёння гэтую справу таму, што апошні час у кітайскім друку і выступленнях кіраўнікоў КПК паявілася шмат абвінавачванняў і паклёпаў у адрас многіх камуністычных і рабочых партый, а перад усім у адрас КПСС. А заклікі, каб не надаваць палемікам публічнага характару, кітайскія таварышы патрактавалі як доказ слабасці гэтых партый, якія маюць шматгадовы вопыт у рэвалюцыйнай барацьбе і паслядоўна праводзяць у жыццё марксісцка - ленінскую лінію, прынятую ў дакументах 1957 і 1960 гадоў. Таму камуністычныя і рабочыя партыі не могуць абмінуць маўчаннем гэтых паклёпаў і нападкаў. Добра захаваліся ў нашай памяці словы таварышоў М. С. Хрушчова і Ул. Гамулкі ў Маскве ў час апошняй пабыўкі там польскай партыйна - урадавай дэлегацыі. Яны далі грунтоўную ацэнку характару тэорый, з якімі выступаюць правадыры КПК. Яшчэ раз скрытыкавалі кітайскі тэзіс, што канцэнтрацыя намаганняў сацыялістычных краін дзеля развіцця эканамічнай магутнасці і павышэння матэрыяльнага ўзроўню людзей «вядзе на пазіцыі дробных буржуа, на пазіцыі буржуазнага выраджэння». Недарэчнасць такога тэзісу не падлягае сумненню. Пярэчыць ён прадпасылкам камуністычнай тэорыі, згодна з якой, менавіта, эканамічнае развіццё абумоўлівае поспех сацыялістычнай рэвалюцыі і з'яўляецца найлепшай формай змагання супраць капіталізму. Што ж можа лепш заваяваць сімпатыі народных мас да сацыялізма як не дасягненні тэхнікі, вытворчасці і ўзровень жыцця сацыялістычнага грамадства.

Не падлягае сумненню, што ў выніку такія ўстаноўкі і погляды кітайскіх правадыроў вядуць да апраўдання вайны як найбольш надзейнага шляху да перамогі сацыялізма ў сусветным маштабе. Выклікаюць жах выказванні кітайскіх правадыроў. Вынікае, што яны абыякава ставяцца да лёсу мільёнаў людзей, якія павінны былі б загінуць у атамным канфлікце паміж двума сістэмамі.

Тэорыя кіраўнікоў КПК аб перманентнай вайне з капіталізмам у практыцы азначаюць, што яны адкідаюць асноўны, прыняты ўсім сусветным рухам, тэзіс XX-ага З'езда КПСС, што ў нашу эпоху, калі сацыялізм стаў магутнай сусветнай сістэмай, вайна перастала быць няўхільнай. Сацыялістычныя дзяржавы маюць жа ў сваім распараджэнні дастатковыя матэрыяльныя і мілітарныя сілы, каб навязаць імперыялістам мір.

З асаблівай выразнасцю выступае ўся непрыдатнасць кітайскіх тэорый, калі ўявім сабе, што найбольшая атракцыйнасць сацыялізма палягае на стварэнні ім перад чалавецтвам рэальных перспектыў трывалага міру. Свядомасць, што сацыялізм можа перамагчы без сусветнай вайны — з'яўляецца сёння асноўнай сілай у дзейнасці кампартый многіх капіталістычных краін.

У святле таго, што сёння ведаем аб тэорыях і метадах дзейнасці правадыроў КПК, можна сцвердзіць, што з поўнай свядомасцю яны імкнуцца да расколу ў рабочым руху, да навязання камуністычным партыям сваёй волі. Такія ўстаноўкі кітайскіх правадыроў прымушаюць камуністычныя і рабочыя партыі, стоячыя цвёрда на марксісцка - ленінскіх пазіцыях, не толькі ўжо да ідэалагічнай дыскусіі, але таксама да практычных мерапрыемстваў, умацоўваючых салідарнасць сацыялістычных краін і адзінства сусветнага камуністычнага руху.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

Пазнаем СВОЙ КРАЙ

# „ВАРФАМА"

**Вармія** — краіна шматлікіх азёр, раскінутых сярод узгоркаў і старых, пераважна сасновых лясоў. На карце Польшчы знойдзеце яе ў паўночнаўсходнім кутку. Незвычайная прыгажосць краявідаў і многія гарады (напрыклад, Мальборк, Лідзбарк, Кентшын, Асtruда), праслаўленыя ў гісторыі, ствараюць сапраўдны рай для турыстаў. **Вармія** маніць нават іншаземцаў.

Вармія — гэта таксама сімвал незвычайнай стойкасці карэннага мясцовага насельніцтва — **аўтахтонаў,** якіх на працягу 500 гадоў не здолелі анямечыць ні крыжаносцы, ні прускія каралі, ні гітлераўскае бяспраўе.

Тут над ракой Лынай сярод лясоў ляжыць невялікі, але прыгожы гарадок **Добрэ Мяста — добры горад.** Цяпер ён налічвае ўсяго каля 5-ці тысяч жыхароў, хаця гісторыя яго існавання сягае далёка за паўтысячы год таму назад. Ужо ў 1347 годзе быў тут пабудаваны велізарны касцёл, т. зв. **калігіята,** якая вельмі добра захавалася па сённяшні дзень і з'яўляецца сядзібай касцельных улад.

**Добрэ Мяста,** калі здарыцца нагода, варта наведаць не толькі турысту, але і звычайнаму селяніну, наведаць, каб убачыць **«ВАРФАМУ».** Так таямніча называецца **Вармінская фабрыка сельскагаспадарчых машын.** Яе адрас: Добрэ Мяста, Лідзбарскі павет, Альштынскае ваяводства.

«Варфама» — адно з буйнейшых прадпрыемстваў у краіне, якія выпускаюць сельскагаспадарчую тэхніку. **«Варфама»** спецыялізуецца ў прадукцыі навейшых тыпаў абмалотачных агрэгатаў, арфаў і электрычных рухавікоў для сельскагаспадарчых машын. Прадукцыя **«Варфамы»** шырока вядома. У нас на **Беласточчыне працуе зараз каля дзвюх тысяч абмалотачных агрэгатаў, складзеных рукамі рабочых Вармінскай фабрыкі сельскагаспадарчых машын. У бягучым годзе Беластоцкае ваяводства атрымае ад «Варфамы» яшчэ 580 малатарань. «Варфама»** з'яўляецца велізарным заводам. Без пераўвелічэння можна сказаць, што яна, як добрая маці, корміць Добрэ Мяста: адна пятая частка насельніцтва гарадка знаходзіць працу і заробак у **«Варфаме».**

Ці заўсёды так было? Аб гэтым мог бы расказаць майстар Анастас Айнспорн, якога мы бачым на нашым здымку (першы з левай). Ён быў адным сярод трынаццаці рабочых, якія зараз пасля вайны прыступілі да адбудовы зруйнаванай гітлераўцамі фабрыкі. Ад гэтага часу Анастас на ўсё жыццё зросся з **«Варфамай».** Ён успамінае, што да вайны працавала тут усяго 60 чалавек і, зразумела, ніхто нават не марыў аб прадукцыі так складанай сельскагаспадарчай тэхнікі, якая цяпер шырока на ўсю краіну і за яе межамі славіць і Добрэ Мяста і прыгожую Вармію.

(ВР)

Фота — ЦАФ

спорт

# ДОБРЫЯ СПРАВЫ ЦІ ТОЛЬКІ ЭФЕКТ?

Спартыўны рух мае шырокае поле дзеяння, уключыўшыся ў агульнанародны рух у сувязі з адзначэннем IV з'езда Партыі і 20-годдзя ПНР.

Аднак абавязацельствы, якія бяруць на сябе спартсмены, павінны быць канкрэтнымі і датычыць рэчаў, якія можна праверыць.

Абсурдальным будзе, напр., такое абавязацельства: для адзначэння і г.д. члены спартыўнага клуба паб'юць два ваяводскія і 5 асабістых рэкордаў. Такія абавязацельствы даўней былі ў модзе, і сёння не варта вяртацца да тых старых традыцый. Некалькі год таму дзеячы веласпорту ў Польшчы дзесьці ў табліцах сусветных рэкордаў выкапалі нейкі малазначны і нікому не патрэбны рэкорд і «для адзначэння» нейкай падзеі загадалі Салыгу круціцца на велатрэку да галавакружэння. Праўда, рэкорд быў устаноўлены, але апрача яго арганізатараў, нікому ён не быў патрэбны.

Чым больш канкрэтныя абавязацельствы, тым больш вартасныя. Яны павінны датычыць спраў, патрэбных для нашага спорту. Рэкордаў і дасягненняў у спорце нельга запланаваць, як прадукцыйнасць на заводах. Аднак добры трэнер ведае, чаго можна спадзявацца ад сваіх выхаванкаў. Ён не можа ведаць, ці якраз у той дзень будзе ўстаноўлены рэкорд. Нейкая нязначная кантузія можа не дазволіць выканаць узятае на сябе абавязацельства. Але можна канкрэтна запланаваць арганізацыю малых спартыўных пляцовак, якіх усё яшчэ не хапае, падрыхтоўку інструктараў, суддзяў, арганізаванне масавага навучання плаваць, бо мы з'яўляемся народам, які не ўмее плаваць. Ці такія абавязацельствы не прынясуць больш карысці?

Л. ТАРАСЕВІЧ

УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ

17)

# Уладзімір Станковіч АДЗІН З МНОГІХ

У канцы жніўня я паехаў у Алекшыцы на раённую канферэнцыю сакратароў партыйных ячэек, на якой галоўным пунктам была ацэнка мітынгу, на якім выступалі паслы «Змагання» Дварчанін і Гаўрылік і дайшло да бойкі з паліцыяй. Абмеркавалі план дзеяння для партыі і камсамола на найбліжэйшы час, асабліва на перыяд выбарчай кампаніі перад выбарамі ў сейм, якія мелі адбыцца ў лістападзе гэтага ж, 1930 года. Вярнуўшыся на другі дзень раніцай з Алекшыц у Гродна, ідучы дахаты, я праходзіў каля беларускай кнігарні і ўбачыў у яе вітрыне ўмоўны знак, паведамляючы аб арыштах. Я павярнуў у завулак, прабег на Мастовую вуліцу, дзе спыніў таксі і паехаў на Фарштат да тэсця цёткі. Потым паслаў цётку дахаты даведацца аб становішчы. Аказалася, што меў шчасце, што праходзіў каля кнігарні ды яшчэ ў такі час, калі каля яе не круціліся шпікі, або былі такія, што мяне не зналі. Былі ў хаце маіх бацькоў шпікі некалькі ўжо раз. Бацькі ім сказалі, што я паехаў у Беласток шукаць работы.

У Гродне арыштавалі чатырох таварышоў, а некалькі асоб, у тым ліку і я, ураталаваліся ад арышту толькі таму, што не былі дома. Арышты былі зроблены на падставе даносу правакатара з Індурскага раёна, члена акружнога камітэта партыі. Таму асабліва шмат арыштаваных было ў Індурскім раёне і часткова ў Крынкаўскім. Прозвішча правакатара не памятаю.

На шчасце, правакатар не мог сягнуць па «Сашу», якая навязала са мной сувязь, і мы, спаткаўшыся, абмеркавалі нашы арганізацыйныя абставіны. Праз некалькі дзён нам удалося поўнасцю высніць стварыўшаеся становішча. Правакатар прычыніў партыі сур'ёзны ўдар, але не настолькі грозны, каб не магла ісці далей работа. А гэтага вось найбольш хацела б паліцыя ў перыяд выбарчай кампаніі ў сейм. Я, хоць прымушаны быў хавацца, кіраваў далей дзейнасцю гарадской арганізацыі.

Вельмі нявыгадна было мне сядзець на Фарштаце, і таму я надумаўся змяніць свой «стратэгічны пункт кіравання». Перабраўся ў горад і пасяліўся на паддашы будынка, у якім змяшчалася яўрэйская гімназія і камісарыят паліцыі. Паліцыі не магло прыйсці нават у галаву, каб у яе будынку сядзеў сакратар гарадскога камітэта КПЗБ, якога яны шукалі ўжо два амаль тыдні па ўсяму гораду і нават у Беластоку. Гэтая мая схованка была вельмі добрай, бо я меў добрыя ўмовы на спатканне з таварышамі. Сустракаўся нават з тав. «Сашай» і два разы з прадстаўніком Цэнтральнага Камітэта, ад якога пры другой сустрэчы я атрымаў загад выехаць у Беласток. Уласна кажучы, пастанова ЦК партыі мяне кіравала ў трохгадовую вышэйшую партыйную школу. Трэба было ехаць у Беласток, скуль мяне ўжо мелі пасла́ць далей. Я быў вельмі рад гэтай пастанове.

Выехаў я ў Беласток у пачатку кастрычніка. У Беластоку я атрымаў праз знаёмых дзяўчат з Бераставіцы добрую схованку ў памяшканні дворнічыхі на Купецкай вуліцы. Я меў загад не ўмешвацца ў работу, а толькі чакаць сходу і высылкі ў школу. Сувязь трымаў са мной сакратар акружкома праз сваю сувязную. Прайшло тры тыдні, аж сувязная з Цэнтральнага Камітэта паведаміла мяне, што трэба будзе чакаць даўжэй, бо «сапсавалася» дарога ў школу. Я патрабаваў дазволу ўключыцца ў работу партыі, бо не мог сядзець спакойна ў той час, калі ў сувязі з набліжэннем выбараў у сейм ішла напружаная дзейнасць, а ў Беластоку адчуваўся недахоп людзей да працы. Атрымаўшы частковы дазвол праз сакратара акружкома, прыступіў я да работы не часткова, а поўнасцю. Аднойчы, даведаўшыся, што на фабрыцы плюшу Бэкера няма каму выступіць з прамовай на мітынгу рабочых, я пайшоў на фабрыку і выступіў да некалькі сот рабочых, сабраўшыхся на фабрычным панадворку. І тады амаль мяне не арыштавалі, але рабочыя не дапусцілі — схавалі мяне між сабою і вывелі праз другі панадворак на вуліцу.

Пачаўся снежань, а я ўсё сядзеў у Беластоку, але добра, што хоць не залажыўшы рукі, а ў працы час праходзіў шпарка. У час сустрэчы з акругоўцам мы вырашылі склікаць пасяджэнне акружнога камітэта, каб ацаніць ход і вынікі выбарчай кампаніі пры выбарах у сейм, якія адбыліся ў лістападзе. Вырашылі таксама выклікаць у Беласток на партыйную работу на некалькі месяцаў сакратара белавежскага раёна Аляксандра Гулько.

Дзякуючы таму, што быў якраз у Беластоку з Белавежы раённы тэхнік, праз яго перадалі Гулько запіску, каб прыехаў у Беласток 11-га снежня і быў у 16 гадзін у невялікай кавярні на Суражскай вуліцы. У запісцы перадаваўся спосаб кантакту з ім у кавярні. 11-га снежня захварэла мая сувязная і таму не магла пайсці сустрэць Гулько. Ведаючы, што гэтая яўка ў кавярні яшчэ не выкарыстоўвалася і таму не была шырока вядомай, я вырашыў пайсці ў кавярню на сустрэчу з Гулько сам, тым больш, што і так з ім разам павінен быў ісці на канспірацыйную кватэру на пасяджэнне акружнога камітэта партыі.

Увайшоўшы ў кавярню, я прысеў ля століка і заказаў шклянку чаю і пірожнае. У кавярні апроч мяне былі яшчэ толькі два чалавекі, якія сядзелі ў паасобку. «Цікава, каторы з іх Гулько?» — думаў я, спакойна папіваючы чай.

Адзін з іх выняў з кішэні часопіс «Ілюстраваны Кур'ер Цодзенны» і, разлажыўшы, пачаў нібы чытаць. «Ага значыць, Гулько ёсць», — заўважыў я сабе ў думцы і ядучы пірожнае, аглядаў другога госця, які, не звяртаючы ўвагі ані на Гулько, ані на мяне, спакойна піў каву і еў пончык. Я выняўшы з кішэні пачак папярос, узяў з яго адну, і, улажыўшы ў вусны, пачаў шукаць па кішэнях запалак. Сцвердзіўшы гэтым, што запалак не маю, устаў і падышоў да Гулько, каб прыкурыць ад яго папяросу. У час прыкурвання я шапнуў яму пароль і атрымаў адказ. Кантакт навязаўся. Падзякаваўшы голасна за агонь, я пайшоў на сваё месца і прадаўжаў піць чай. Трэці наведвальнік неўзабаве дапіў сваю каву, заплаціў і выйшаў з кавярні. Я і Гулько пасядзелі яшчэ мінут пяць і вышлі. Я пайшоў першы, а Гулько некалькі крокаў ззаду. Пачаў я трохі пятляць па вуліцы і цёмных завулках, спаглядаючы, ці няма за намі шпікоўскага «хваста». Пераканаўшыся, што ўсё ўпарадку, я звярнуў у Дайлідскую вуліцу і далей ішлі мы ўжо разам. Дайшлі мы да маленькай хаты, якая была нашай мэтай. Я аглянуўся і, убачыўшы ззаду трох мужчын, вырашыў перачакаць. Выняў папяросы і мы закурылі. Прахожыя наблізіліся і, замест мінуць нас і ісці далей, затрымаліся каля нас. Заявілі, што з'яўляюцца тайнай крымінальнай паліцыяй (на доказ чаго паказалі бляшкі з напісам) і запатрабавалі ад нас



 

ДАРОГА СЛАВЫ

# ПАРТЫЗАНСКІЯ АТРАДЫ

Папярэднія ўрыўкі «Дарогі славы» гаварылі аб тым, як беларускія патрыёты ад пачатку гітлераўскай акупацыі на Беласточчыне пачалі арганізоўваць антыфашысцкі фронт барацьбы з захопнікам. У наступныя гады на базе гэтага фронту пачалі арганізоўвацца партызанскія атрады, якімі ў большасці выпадкаў кіравалі савецкія афіцэры. Калыбеллю савецкіх партызанскіх атрадаў на Беласточчыне, у якіх змагаліся беларусы, былі ў першую чаргу лясныя масівы Белавежскай пушчы, а таксама лясы на ўсход ад Беластока (Супрасльская і астаткі даўняй Кнышынскай пушчы). У гэтых лясах у 1941 годзе хавалася шмат афіцэраў і салдат Савецкай Арміі з разбітых воінскіх часцей. Яны і беларусы - камуністы — члены антыфашысцкіх камітэтаў у 1942 годзе арганізавалі першыя партызанскія атрады.

Аб арганізацыі адной з партызанскіх груп і яе першых дыверсіях так успамінае тав. Язэп Храноўскі — «Андрэй»;

Гестапа і жандармерыя ўсё часцей з'яўляліся ў раёне Гарадка. Арыштавалі некалькі чалавек з падполля. У той час, а было гэта ў 1942 годзе, апрача групы савецкіх таварышоў у нашай аколіцы была арганізавана новая партызанская група, аснову якой складалі былыя дзеячы і члены КПЗБ. Душой і арганізатарамі гэтай групы былі камуністы Фёдар Парфенюк — «Рыгор» з Залук (Беластоцкі павет), які перад вайной больш сядзеў у санацыйных турмах за сваю палітычную дзейнасць, чым быў на свабодзе, і тав. Аляксандр Мойсак — «Марцін» з Гарадка, былы сакратар раённага камітэта партыі, таксама даўгалетні вязень санацыі. Да іх далучыліся іншыя камуністы — беларусы, як Раман Мордань з Валілі, Уладзімір Карпюк са Страшава, Канстанцін Кісляк, Сцяпан Кандрусік і Язэп Тарасевіч з Гарадка, Язэп Бурса з Навасёлкаў, Янка Нягерыш з Пілатоўшчыны, Антон Завадскі з Валілі і шмат іншых. Усе яны былі маімі таварышамі па барацьбе з перадваеннага перыяду і арганізатарамі антыфашысцкага падполля ад лета 1941 года. Большасць з іх хавалася ад пачатку акупацыі на Беласточчыне. Начальнікам усёй гэтай партызанскай групы быў лейтэнант Дзмітрый Новікаў — «Мішка». Гэта партызанская група ужо зімой 1942 года нанесла ворагу першыя ўдары. На чыгунцы Беласток — Ваўкавыск каля Бераставіцы быў спушчаны пад адкос эшалон гітлераўцаў. На шашы з Беластока ў Ваўкавыск было ўзарвана некалькі машын з немцамі. Ліквідавалі некалькіх выяўленых правакатараў. На пішучай машынцы пісалі і распаўсюджвалі лістоўкі.

Вясна і лета 1942 года прынеслі ажыўленне партызанскай дзейнасці ў маім раёне. Узніклі новыя партызанскія групы, як, напр., Гразы, Міхася Змея, Панаса, Новіка і іншыя. Некаторыя з іх адыходзілі ў Белавежскую пушчу і адтуль рабілі вылазкі.

Успамінаецца мне адна партызанская дыверсія, праведзеная восенню 1942 года, у якой я непасрэдна ўдзельнічаў. Да мяне прыйшоў партызанскі патруль пад кіраўніцтвам лейтэнанта Міхася Голдышава. Партызаны мелі самаробную міну. Недалёка ад маёй роднай вёскі Дзерянякова пралягае чыгунка Беласток—Ваўкавыск. Ноччу на чыгунцы была ўзмоцненая варта. Мы вырашылі правесці дыверсію раніцай, калі варта пакіне чыгунку. Я падказаў партызанам адпаведнае месца на чыгунцы. З Беластока на фронт ішоў эшалон. Мы замініравалі чыгунку. Каб міна ўзарвалася, трэба было пацягнуць за шнур. Дачакаўшыся адпаведнага моманту, мы ірванулі шнур. Страшны выбух устрасянуў паветра. Паравоз сарвала з рэек, палацелі пад адкос апошнія ахопленыя полымем вагоны, у якіх пачалі ўзрывацца боеприпасы. Мала хто з немцаў уратаваўся, каля 250 гітлераўскіх салдат тут знайшло смерць. Эшалон поўнасцю быў знішчаны, а чыгунка на гэтым адрэзку на нейкі час была выведзена са строю.

Прыпамінаю сабе таксама, як асенняй ноччу 1942 года на шашы Беласток — Ваўкавыск у Ліпніцкім лесе Дзмітрый Новікаў са сваім атрадам



**Раман Мордань з Валіл, былы дзеяч КПЗБ, адзін з арганізатараў партызанскага атрада камуністаў Беластоцкага павета, партызан атрада імя Суворава брыгады «Савецкая Беларусь». Узнагароджаны ордэнам «Палёнія Рэстытута» і медалямі.**

атакаваў калону нямецкіх аўтамашын. Разгарэўся бой, у якім па-геройску загінуў начальнік атрада лейтэнант Дзмітрый Новікаў — «Мішка». Кіраўніцтва атрадам узяў на сябе Фёдар Парфенюк — «Рыгор» з Залук.

Я пайшоў у партызаны 16 сакавіка 1943 года. Разам са мной пайшлі з Дзерянякова яшчэ пяць членаў антыфашысцкага падполля. Гестапаўцы забралі маю жонку і дзяцей.

Партызанскі атрад, які ўзначальваў Фёдар Парфенюк, рос з кожным днём. Апрача савецкіх воінаў у атрадзе было 27 камуністаў, былых членаў КПЗБ, кожны з якіх меў сваю сетку сувязных і супрацоўнікаў па вёсках, што значна аблягчала партызанскую дзейнасць. З больш значных дыверсій, якія правёў наш атрад вясною 1943 года, асабліва запамяталася мне дзве. У нашу засаду, зробленую на шашы каля Чорнай Всі трапіў палкоўнік СА Тубінг, інспектар гаўляйтэра Коха, які якраз тут праязджаў. Атрымаў заслужаную кару. У той самы час на чыгунцы Беласток — Гродна мы пусцілі пад адкос эшалон, які ішоў на фронт...»

Так пачаўся партызанскі рух у раёне Гарадка, Дзерякова, Валіл. Так было не толькі тут. Партызанскія атрады ўзнікалі і ў іншых мясцовасцях. Аб іх за тыдзень.

**А. АМІЛЬЯНОВІЧ**

---

дакументаў. Адзін з іх, аглядаючы нашы пашпарты «разважаў»:

— Пан, — паказаў ён пальцам на мяне, — здаецца парадачны чалавек, але вось пан Гулько вядомы паліцыі злодзей. Прыехаў пан Гулько на перадсвяточныя «выступленні» ў Беласток.

— Як вы можаце мяне зневажаць, не знаючы, — запратэставаў Гулько. — Я не пазволю на такія «жарты», — адказаў Гулько на заўвагу другога шпіка, што «калега жартуе».

На рагу вуліцы паказаўся паліцыянт, шпік, паклікаўшы яго, сказаў:

— Не, я не жартую. — Паказаўшы паліцыянту сваю «бляшку», выняў з кішэні жалезныя наручнікі, надзеў іх Гулько на рукі і прыказаў:

— Пан, пане К. і пастарунковы, завядзеце Гулько ў камісарыят.

А калі шпік, паліцыянт і Гулько адышлі, шпік, які ўвесь час разыгрываў справу, звярнуўся неяк надта далікатна да мяне:

— Я ўпэўнены, што вы нічога супольнага са зладзействам не маеце. Але недалёка адсюль гэтымі днямі быў абкрадзены дом. Гаспадар аднак заўважыў злодзея і па яго апісанню вы падобны да яго. Каб упэўніцца, што гэта не вас ён бачыў, мы пройдземся да гэтага гаспадара, а потым папросім у вас прабачэння і развітаемся.

Узялі мяне шпікі між сабою і павялі рознымі вулічкамі ў бок Ліповай.

Я інтэнсіўна абдумваў ствярыўшаеся становішча. Найбольш быў задаволены, што я затрымаўся ля хаты і не павёў за сабой туды шпікоў. Паддаўся аднак створанаму ўражанню аб крымінальнай сцэнэрыі. «Калі сапраўды гэта крымінальныя шпікі і не звернуцца з запытаннем аба мне да дэфензівы, дык можа і ўдасца вывярнуцца, — думаў я. — Толькі вось надта знаёмы твар кіруючага шпіка. Дзе я яго бачыў? У кавярні?.. Але ж той кавярняны госць быў без вусікаў...»

Каб я ведаў вядомага ў Беластоку шпіка Мілера, дык для мяне была б адразу яснай уся справа. Я, увайшоўшы у кавярню, у ёй не затрымаўся б, бо гэтым якраз госцем і быў Мілер. Выйшаў з кавярні, калі ўбачыў, што я з Гулько скантактаваўся, бо ведаў аб гэтым кантакце ад раённага белавежскага тэхніка, які, як аказалася потым, быў правакатарам.

---

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

## Не трэба далёка шукаць

Вясна, севы, палявыя работы. Гарачая пара ва ўсім. Трэба спяшацца, бо і так усё са спазненнем. На дадатак — няма ўгнаення. Больш старанныя сяляне маюць дастаткова ўгнаення, а хто раней не падумаў, дастаць не можа.

На вясковых сходах узнімаецца ўсё тая ж тэма: мала ўгнаення, хочам больш купляць, гэта скандал, што не даюць на продаж столькі, колькі трэба вёсцы. І так без канца.

Яшчэ нядаўна беластоцкія сяляне выкарыстоўвалі ў сярэднім на гектар 25 кг NPK. Гэта вельмі мала. Склады былі перапоўнены. Рэкламавалі ўгнаенні, заахвочвалі, як толькі можна было, паказвалі, якую даюць карысць — нічога не памагала. Хімічная прамысловасць не магла развівацца жаданымі тэмпамі. І раптам нечаканасць: патрэбы вёскі сталі шмат, шмат большымі ,чым могуць выпрадукаваць нашы фабрыкі. У Беластоцкім ваяводстве ў сярэднім на гектар выпадзе каля 35 кг NPK. Ёсць у нас раёны, дзе гэты паказнік будзе большы ў 2, а нават і ў 3 разы. Але і там не выкарыстоўваюць столькі штучнага ўгнаення, як у перадавых краінах Еўропы. У многіх з іх на гектар высяваецца 150—200, а нават 450 кг NPK. У нашых умовах дастаўка угнаенняў узрасце ў наступнай пяцігодцы да 120—130 кг NPK на гектар.

Аднак праблема заключаецца не толькі ў павелічэнні вырабу штучных угнаенняў. Ужо сёння трэба смялей звярнуцца да рэзерваў. Ёсць магчымасць значна палепшыць баланс угнаенняў шляхам падрыхтоўкі гаспадарскіх угнаенняў. Яшчэ мала маем гною. А вядома, што гной, скампаставаны з торфам у прапорцыі 1:1, мае тую самую вартасць, што чысты гной. Добрыя вынікі дае прымяненне торфу на падсцілку. Можна таксама рабіць штучны гной з торфу, саломы, розных адпадкаў і поўнай колькасці мінеральных угнаенняў (калійных і фосфарных).

Вялікім рэзервам у нашым ваяводстве з'яўляюцца яшчэ кампосты. У гэтым сэнсе нямала добрых прыкладаў, напр., у Гайнаўскім павеце. Найлепшыя вынікі даюць кампосты з торфам.

Амаль не робяць у нас такога, напрыклад, кампосту, як лубінава - тарфяны. Вось як яго рабіць. На тарфяніках сеем лубін. Зялёную масу скашваем і згортваем у кучу разам з верхнім слоем глебы. Праз нейкі час маем ужо добрае ўгнаенне для прапашных культур, або на лугі і пашы.

Вельмі мала выкарыстоўваецца ў нас гнойная жыжка — гнаёўка (10.000 літраў на гектар пасля развядзення вадой). Мала хто з беластоцкіх сялян мае зялёнае ўгнаенне (з ім на 29% лепшы ураджай дае бульба). Вельмі патрэбна яно для лёгкай глебы, з малым перагнойным слоем. Справа тут не толькі ва ўзбагачэнні глебы кармавымі рэчывамі (галоўным чынам азот), але і ў паляпшэнні структуры глебы.

У бліжэйшыя гады будзе больш мінеральных угнаенняў. Цікавы эксперымент праводзіцца ў вёсцы Забродздзе (Сакольскі павет), дзе на гектар пасеваў прыпадзе па 100 кг NPK. За некалькі год так будзе ў кожнай вёсцы. Але гэта не скідае з нас абавязку павялічваць колькасць арганічных угнаенняў у кожнай гаспадарцы.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

---

# З даходамі і з дэфіцытамі

У Гайнаўскім павеце налічваецца 89 сельскагаспадарчых гурткоў, якія аб'ядноўваюць 1608 гаспадароў. Да 20 сакавіка адбыліся ў іх справаздаўча - выбарчыя сходы, на якіх абмяркоўвалася гаспадарчая дзейнасць за мінулы 1963 год, накрэсліваліся планы працы на бягучы год і выбіраліся новыя праўленні На ўсіх сходах вялася ажыўленая дыскусія. Гаварыць было аб чым, таму што ў кожным гуртку ёсць шмат добрага і дрэннага.

Некаторыя гурткі атрымалі вялікія даходы, а ёсць і такія, якія не маглі пакрыць сваіх расходаў. Да гурткоў, у якіх прадумана і ўмела вялася гаспадарчая дзейнасць, належаць гурткі з Дубін і Сакоў. Першы мае 121 тыс. зл. даходу, а другі — 118 тыс. зл. Дубічы Асочныя маюць 38 тыс. зл. чыстага даходу, а Семяноўка — 24 тыс. зл.

А сельгасгурток у Нарве мае 51 тыс. зл. дэфіцыту. Грашовы недахоп на 15 тыс. зл атрымаўся ў Ставішчах і ў Вольцы (каля Курашава). Факты гэтыя гавораць аб непараднасці праўлення гуртка, аб малой адказнасці перад усімі членамі гуртка.

У справаздаўча - выбарчых сходах удзельнічала шмат гаспадароў — аднаасобнікаў. Амаль на кожным сходзе прымаліся новыя члены. Напрыклад, у Арэшкаве было прынята ў сельгасгурток 10 гаспадароў, у Палоўцах — 6, у Махнатым — 5 і г.д. Агулам сельскагаспадарчыя гурткі павялічыліся на 98 членаў.

**Аляксандр Ражкевіч**
Гайнаўка

---

## ГУРТОК ПРАБУДЗІЎСЯ

У Скупаве многа моладзі. Належыць яна да гуртка БГКТ. Гурток гэты пры дапамозе кіраўніка школы Язэпа Навіцкага шырока разгортваў мастацкую самадзейнасць. Але гурток, як мядзведзь, заснуў на зіму. Прабудзіўся толькі нядаўна. І зноў пад кіраўніцтвам Язэпа Навіцкага падрыхтоўвае дзве п'есы: «Мікітаў лапаць» і «Мядзведзь».

**Яўгень Рэснт**
вёска Міхноўка

---

## ЛЮБІЦЕЛІ ТЭАТРА

У сувязі з міжнародным днём тэатра адбылася нядаўна сустрэча любіцеляў гэтай музы з Беластоцкага ваяводства. Беласточчына была першым ваяводствам у краіне, дзе пачалі ўзнікаць гурткі любіцеляў тэатра. Конкурс «Вёска бліжэй да тэатра» вельмі памог гэтай акцыі. Многа людзей з вёсак, якія ніколі не бачылі тэатра, у рамках конкурса пабывалі ў ім, да многіх тэатр прыехаў у вёску. Значна павялічылася колькасць выездаў нашага тэатра ім. Вянгеркі. Памочнікам тут стала і тэлебачанне, якое дае тэатральныя спектаклі. Людзі любяць тэатр, хочуць бачыць яго, вучацца на ім. Адным словам, як сказаў на сустрэчы Сяргей Філіпюк з Паўлаў, «любіцелі тэатра маюць шырокае поле для дзейнасці».

Конкурс «Вёска бліжэй да тэатра» закончыцца ў ліпені і ёсць падставы меркаваць, што Беластоцкае ваяводства зойме першае месца. (вл)

# ТРЫБУНА чытачоў

## СЦЭНІЧНАЕ СЛОВА І ПЕСНІ

Добра развіваецца мастацкая самадзейнасць на Бельшчыне. У асенне - зімовы перыяд працавала 50 драматычных калектываў, 7 інструментальных і 3 дэкламатарскія. Многія калектывы дабіліся сур'ёзных дасягненняў.

Аматарскі мастацкі калектыў з Пілік некалькі разоў займаў перадавыя месцы на павятовых і ваяводскіх аглядах, а ў мінулым годзе выязджаў на цэнтральны агляд у Зялёну Гуру.

Інструментальна - харавыя калектывы з Боцек і Орлі, Крывой і Шчытоў далі шмат канцэртаў на Бельшчыне. Ажыўленую дзейнасць вядзе лялькавы мастацкі калектыў з Малешаў.

У павеце дзейнічае 36 драмгурткоў у беларускіх вёсках. У сакавіку 1963 года 8 драмгурткоў узяло ўдзел у павятовым аглядзе. Калектыў з Левак выязджаў у Варшаву на агляд мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей. За добрыя поспехі атрымаў узнагароду — тэлевізар.

Моладзь з беларускіх вёсак бярэ таксама актыўны ўдзел у конкурсах савецкіх песень. Дуэт з Пілік заняў І-шае месца на ваяводскім аглядзе і перадавое месца на цэнтральным аглядзе.

У сувязі са святкаваннем XX-годдзя народнай Польшчы ў Бельскім павеце будзе арганізаваны павятовы агляд да III-га агульнапольскага конкурсу савецкай песні. Будуць арганізаваны і іншыя мерапрыемствы, як павятовы агляд да XI Агульнапольскага рэцытатарскага конкурсу, агляд мастацкіх калектываў, конкурс п.з. «Паэзія і песня XX-годдзя», спатканне аматарскіх калектываў у вёсках Снежкі, Малочкі і Дубна. Будуць таксама арганізаваны выстаўкі «Дасягненні народнай Польшчы», дасягненні мастакоў - аматараў з Бельшчыны і малюнкі вучняў пачатковых і сярэдніх школ на тэму «20 год вёскам Беласточчыны».

**Уладзімір Кучынскі**
Бельск-Падляшскі

## Моладзь і матацыклы

Тарнопаль — вёска невялікая. Налічвае 50 гаспадароў. Ёсць у нас шмат моладзі. Жывецца ёй добра. У кожнай хаце па два, а то і па тры веласіпеды. Але веласіпедам ездзіць цяпер не ганарова. Зараз пайшла мода на матацыклы і кожны кавалер намагаецца яго мець. І ўжо ў вёсцы каля 30 матацыклаў.

Змяніўся час. Зайздросцяць моладзі старыя людзі, якім неаднойчы веласіпед не быў даступны. Хутка механізуецца наша вёска. Толькі з культурай значна горш. Асабліва нашым кавалерам яе не хапае. П'юць яны гарэлку, а напіўшыся авантуруюцца, крычаць. На забаве таксама на кожным кроку здараецца многа нетактоўнасцей. Там, дзе пасядаюць дзяўчаты, хлопцы спіхаюць іх з лавак і гэтым самым зневажаюць іх. Проста брыдка за нашых хлопцаў, за іх паступкі.

**Славамір Садоўскі**
Тарнопаль

**адшукаць шафёра, які яго вёз на вакзал? У Маскве дзесяткі тысяч таксі, і каля галерэі штодзённа бываюць іх сотні. Ну, а калі ўсё ж знайшлі? Паўторнае адмаўленне апазнання будзе выглядаць ужо доказам. Значыць, трэба ліквідаваць усе іншыя доказы. І перш за ўсё грошы.**

**Гернгрос устаў з ложка і, узяўшы з кішэні грошы, прайшоў у прыбіральню. Там, змяўшы кожную паперку, спускаў іх ва ўнітаз. Затым зноў лёг у ложак.**

**Неўзабаве прыйшоў лекар. Гернгрос паўтарыў яму свой расказ аб хваробе і папрасіў некалькі парашкоў снатворнага.**

**Да ночы ўсё было спакойна. Ён ляжаў, прыймаў лякарствы, яго смачна кармілі.**

**Нічога трывожнага не здарылася і на наступны дзень, які Гернгрос таксама правёў у ложку. Рая старанна выконвала яго просьбы: абмяняла яму валюту, адправіла тэлеграму жонцы, прынесла газеты. Зноў прыходзіў лекар, ён запрапанаваў паклікаць на кансультацыю вядомага савецкага неўрапатолага. Гернгрос адмовіўся.**

**— Навошта? Я бачу, што прыступ ідзе на спадак, — сказаў ён.**

**Так, прыступ павінен цягнуцца яшчэ толькі два дні. У суботу Гернгрос павінен устаць з ложка, але з гасцініцы ён не будзе выходзіць. А ў нядзелю зробіць невялікую прагулку, галоўна мэта якой — паглядзець, ці няма за ім сачэння.**

**У панядзелак — справа...**

**Заканчэнне за тыдзень**

139

## Катлам не зраўняцца з Зубавам

Як у Катлах, так і ў Зубаве, ёсць шмат моладзі. Але моладзь у гэтых вёсках розная. Калі б не зайшоў у Катлах у хату грамадзяніна Наумчыка, раніцай ці глыбокай ноччу, заўсёды застанеш там тую самую моладзь, іграючую ў карты. Карцёжнікі трацяць на ігру масу часу — усе доўгія зімовыя вечары, усе святочныя дні.

Зусім інакш у Зубаве. Тут не сустрэнеш моладзі пры картах. Яна вольны свой час прысвячае на культурныя справы — на чытанне кніжак і газет, на падрыхтоўку мастацкіх выступленняў. У мінулым годзе самадзейнікі з Зубава на павятовым аглядзе беларускіх драмгурткоў здабылі першае месца. Зараз таксама падрыхтоўваюцца да агляду. Пры дапамозе кіраўніка школы Янкі Семенюка вывучаюць п'есу «Суд».

Школа ў Зубаве таксама мае большы, чым у Катлах, уплыў на выхаванне моладзі.

Нават школьнікі ў Зубаве больш цікавяцца друкам, як у Катлах. У Зубаве сярод школьнікаў ёсць 32 падпісчыкі беларускага часопіса «Ніва». Адным словам, у Зубаве ва ўсякім сэнсе лепш, чым у суседніх Катлах.

**С. Сусед**
Бельскі павет

## ХОДНІКІ Ў ЧЫЖАХ

Чыжы (на Гайнаўшчыне) налічваюць каля 200 гаспадароў. За гады народнай улады пабудавана ў нашай вёсцы многа новых драўляных і мураваных дамоў. А каб яшчэ прыгажэй было ў вёсцы, летам распачнецца будова 700-метровага адрэзка вуліцы, на якой захаваліся глыбокія каляіны жалезнага воза. Маставая будзе пашырана па абодва бакі, а побач яе будуць уложаны ходнікі. У наступным годзе перабудуецца рэшта вуліцы.

**Я. М.**
вёска Чыжы

## КУЛЬТУРНА СТАЛІ ЖЫЦЬ

Ад 27 сакавіка 1964 года новае жыццё пачалося ў Ласінцы. Дзякуючы ініцыятыве кіраўніка школы Сяргея Бароўскага і намаганням многіх сялян, якія пачалі збіраць грошы, купілі мы тэлевізар. Цяпер вечарам школьная зала перапоўнена моладдзю і старэйшымі. Нават заядлыя карцёжнікі перасталі іграць у карты і прыходзяць на тэлевізар. Тэлевізар унёс многа культуры ў жыццё вёскі.

**Мікола Аксенцюк**
Ласінка

## Леўкаўскія самадзейнікі

Аматарскі драмгурток з Левак пад кіраўніцтвам настаўніка Г. Гаўзэ выступаў нядаўна ў святліцы ў Райках з пастаноўкай «Мікітаў лапаць». Выступіў таксама леўкаўскі гарцэрскі мастацкі калектыў з інсцэнізацыяй п'есы «Дзяўчынка Біз», а таксама з вершамі, прысвечанымі XX-годдзю народнай дзяржаве.

Варта адзначыць, што мастацкай самадзейнасцю цікавяцца ў Леўках як дзеці, так і іх бацькі. У Райках выступала Кацярына Бурыла і яе сын Юрка, Вера Іванчук і яе сыны Юра і Коля, Валя Мялешка і яе дзеці Коля і Іра. Два пакаленні выступаюць супольна на сцэне.

**Чытач з Левак**

## Блокавыя камітэты дзейнічаюць

У Гайнаўцы ўсё шырэйшую дзейнасць праяўляюць блокавыя камітэты. Яны часта з'яўляюцца ініцыятарамі працы грамадскім чынам. Напрыклад, у мінулым годзе блокавы камітэт №7 выступіў з прапановай пабудовы 4-х калодзежаў пры вуліцах Каладзея і Ланковай. Прэзідыум МРН зацвердзіў гэту прапанову. Працаёмкую работу выканалі самі жыхары гэтых вуліц грамадскім чынам, а прэзідыум даў цэмбравіны. І калодзежы ўжо пабудаваныя.

Блокавы камітэт № 8 звярнуўся з просьбай да прэзідыума аб прыдзеле матэрыялу на пакрыццё гаспадарчых будынкаў пры Варшаўскай вуліцы. Матэрыялы былі прыдзелены і ўжо пакрыты будынкі і калодзеж. Добра працуюць таксама блокавыя камітэты №3 і №5, па ініцыятыве якіх памаляваны лесвіцы ў некалькіх будынках, упарадкаваны пляцы і напраўлены брук вуліцы.

Блокавыя камітэты робяць многа карыснага для насельніцтва. Вось, напрыклад, па іх інтэрвенцыі, на вуліцы Варшаўскай адкрыты дзве крамы-кіёскі, а таксама спажывецкі кіёск на Горнай вуліцы. Яны таксама дапамагаюць правяраць жыллёвыя ўмовы людзей і ўстанаўліваць правільную чаргу прыдзелу кватэр.

**Ю. Козак**
Гайнаўка

## Дарогі і святліца

У нашай вёсцы ўжо некалькі год назад пачалася будова рамізы і святліцы. Але нешта не ладзіцца з гэтай будовай. А святліца вельмі патрэбна. Наша моладзь мае радыёпрыёмнік з радыёлай і тэлевізар. Усё гэта магло б быць у святліцы, а не ў школе.

Куды лепш ідзе ў нас будова дарог. У мінулым годзе будавалася дарога з Ласінкі да Тыневіч. На гэты год запланавана зрабіць жвіроўку з Ласінкі да Трывежы.

**Аляксей Данілюк**
вёска Ласінка

## Сардэчныя тайны

**Дарагое Сэрцайка!**

Завуць мяне Зінай. Маю 20 год. Хлапец, якога завуць Віцем, працуе на Слёнску. Ён вельмі часта прыязджае дамоў. На забавах ён захоўваецца так, як бы толькі мной цікавіўся. Танцуе толькі са мной. Праводзіць дахаты. Часта цалуе і кажа, што мяне кахае. Абое адчуваем сябе свабодна. Праўду кажучы, ён мне падабаецца, але не магу сказаць, каб яго кахала. Ён і яго пастукі смешаць мяне. Віця старэйшы за мяне на 5 год. Вельмі любіць жартаваць. Па-просту вясёлы хлапец. А я змушаю сябе пры ім смяяцца, хаця з сяброўкамі і сябрамі я вельмі вясёлая. Калі не ўсміхаюся, дык зараз пытае: чаму ты такая задуманая, або аб чым ты марыш? Заве мяне нарачонай. Але я думаю, калі б ён кахаў мяне, дык напэўна бы так не называў. Знаю яго ад малых год, разам вучылася ў пачатковай школе. Калі яго няма, прыходзіць да мяне другі хлапец, які мне больш падабаецца, і таму я не веру ў каханне Віці. Што аб тым думаеш, Сэрцайка?

**Зіна** з Бельскага павета

Дарагая **Зіна!**

І я таксама думаю, што ані ты Віці не кахаеш, ані Віця цябе. Проста добра сябе адчуваеце разам. Не сумняваюся ў тым, што ты Віцю падабаешся, інакш бы не танцаваў і не адводзіў цябе дахаты. А таксама і не цалаваў бы так часта, як пішаш. Але глядзі, каб гэтыя пацалункі не перабралі меру.

Што датычыць другога хлапца, дык ты і сама ведаеш, што ён табе лепш падабаецца. Тады нічога не стаіць на перашкодзе, каб з ім сябраваць. Але трэба трохі абмежаваць тваю, як пішаш, «свабоду» з Віцем. Ты не павінна ў такім выпадку аж так цалавацца з Віцем, а таксама і заўсёды вяртацца з забавы з ім. Павінна ты, Зіна, быць аднаму ўжо вернай, якога сабе выбярэш.

СЭРЦАЙКА

«Хачу запытаць, што абазначае, калі хлапец дасць дзяўчыне кветку або сцісне мацней за руку. Такія выпадкі здараюцца са мной, але я жыву ў вёсцы, як кажуць, «забітай дошкамі» і не ведаю, як гэта разумець?» — пытае Вера з Гайнаўскага павета.

Вельмі прыемна атрымаць дзяўчыне кветку ад хлапца. Кветка, а таксама і мацнейшае паціснене рукі значыць, што дзяўчына падабаецца хлапцу. (с)

# КІНО

**Праграма**
**на 28.IV. — 3.V. 1964 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zwycięstwo nad Wołgą" (radziecki), 28—30. IV. „Gdzie jest generał" (polski)), 1—3. V.

**Кляшчэлі**
„Płonąca wyspa" (radz.), 28—30. IV. „Czarny monokl" (franc). 1—3. V.

**Дубіны**
„Weekendy" (polski), 1—3. V.

**Нараў**
„Diabeł morski" (radz.), 29. IV. — 3. V.

**Нараўка**
„Jak być kochaną" (polski), 1—3. V.

**Чаромуха**
„Rudy" (radz.), 28—30. IV. „Gdzie jest generał" (polski), 1—3. V.

**Чыжы**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 29. IV. — 3. V.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Król Maciuś I" (polski), 29. IV. — 3. V.

**Бранск**
„Nie bójcie sie tabliczki mnożenia" (NRF), 28. IV. — 30. IV. „Smierć nazywa się Engelchen" (czeski), 1—3. V.

**Гродзіск**
„Siedem nianiek" (radz.), 1—3. V.

**Орля**
„Przygody Krosza" (radz.), 29. IV. — 3. V.

**Райск**
„Opowieść o prawdziwym człowieku" (radz.), 29. IV. — 3. V.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Wyprawa w Tatry Słowackie" (czeski), 28—30. IV. „Nieletni świadek" (angl.), 1—3. V.

**Міхалова**
„Jutro na orbitę" (radz.), 28—30. IV. „Sąd" (radz.), 1—3. V.

**Супрасль**
„Jedyna szansa" (NRD), 28—30. IV. „Dwa żebra Adama" (polski), 1—3. V.

**Чорна Беластоцкая**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 28—29. IV. „Poste-Restante" (rumuński), 30. IV.—1. V. „Droga do przystani" (radz.), 2—3. V.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Koledzy" (radz.), 28—30. IV. „Czarny monokl" (franc.), 1—3. V.

**Нурэц**
„Poste-Restante" (rumuński), 28—30. IV. „Karabiny i gołębie" (polski), 1—3. V.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Kapral w matni" (franc.), 28—30. IV. „Ballada huzarska" (radz.), 1—3. V.

**Сухаволя**
„Tylko we dwoje" (angl.), 28—29. IV. „Yokmok" (polski), 30. IV. 1. V. „Weekendy" (polski), 2—3. V.

**Шудзялава**
„Przepustka na ląd" (radz.), 29. IV. — 3. V.

**Янаў**
„Kanciarze i Spółka Akcyjna" (angl.), 1—3. V.

**Сідра**
„Droga do przystani" (radz.), 28—30. IV. „Nieznajomi z pociągu" (USA), 1—3. V.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Po latach" (radz.), 1—3. V.

**Новы Двор**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 1—3. V.

**Ружаны Сток**
„Sprawa Niny B" (franc.), 28—30. IV. „Ludobójcy" (szwedzki), 1—3. V.

У мясцовасці Мельнік у днях 27.IV. — 3.V. фільмы высвятляцца не будуць.

# ТЭАТРЫ

### ТЭАТР ІМ. ВЯНГЕРКІ
(выязная група)

**Каменны Двор**
„Pokusa" — 28. IV.

**Гайнаўка**
„Pokusa" — 29. IV.

### ТЭАТР «СВЕРШЧ»

**Стараселльцы**
„Nowe przygody Koziołka Matołka" — 30. IV.

